ГАЗЕТА З БЕЛАРУСІ

# ГОЛАС РАДЗІМЫ

ВЫДАЕЦЦА З 1955 ГОДА ● ● NO.10 (3130) ● ● ЧАЦВЕР, 19 сакавіка, 2009

ШТОТЫДНЁВІК "ГОЛАС РАДЗІМЫ" МОЖНА ЧЫТАЦЬ У ІНТЭРНЭЦЕ: WWW.GOLAS.BY




**Роднае слова — праз Інтэрнэт**
Вучыцца правільна гаварыць па-беларуску можна пры дапамозе новых камп'ютарных праграм Стар. 2



**Мінскі мецэнат**
Міжнародная канферэнцыя была прысвечана дзейнасці Эдварда Вайніловіча Стар. 3



**Вясна прыйшла!**
У трэці раз ладзіўся беларуска-нямецкі карнавал на манер знакамітага карнавалу ў Кёльне Стар. 4




Суперкамп'ютары, якія ствараюць сумесна вучоныя Беларусі і Расіі, — унушальныя нават па памерах машыны

# Зроблена разам!

## Новую мадэль суперкамп'ютара распрацоўваюць навукоўцы Беларусі і Расіі

**Вольга Бяляўская**

Навінка будзе спажываць у пяць разоў менш энергіі ў параўнанні з раней распрацаванымі вучонымі Беларусі і Расіі суперкамп'ютарамі, скароціць час распрацоўкі складаных аб'ектаў, у тым ліку аўтамабільнай тэхнікі, у 5-6 разоў. Прадукцыйнасць новага суперкамп'ютара складзе 5 трыльёнаў аперацый за секунду.

Новы суперкамп'ютар дазволіць машынабудаўнікам больш эфектыўна канструяваць сучасную тэхніку, а таксама выконваць непасрэднае яе мадэляванне, рабіць разлікі віртуальных дынамічных выпрабаванняў. "Калі раней распрацоўка складаных аб'ектаў, у тым ліку ўзораў тэхнікі, займала да 11 гадоў, то новы суперкамп'ютар дапаможа ажыццяўляць іх усяго за паўтара-два гады, і пры гэтым скарачаць матэрыялаёмістасць на вытворчасцях", — расказаў выканаўчы дырэктар праграмы Анатоль Крыштофік.

Эксперыментальны ўзор навінкі будзе створаны ўжо да лета.

# Камфортныя маршруты

## На мінскія вуліцы выйшлі 60 сучасных тралейбусаў

**Аксана Шыкуць**

Гэта толькі першая партыя новай тэхнікі, закупленай па праграме абнаўлення рухомага саставу камунальнага пасажырскага транспарту сталіцы.

Усяго ж сёлета парк грамадскага транспарту горада папоўніцца 38 аўтобусамі і больш чым 200 тралейбусамі. Прычым 4 тралейбусы будуць чацвёртага пакалення: яны маюць футурыстычны дызайн і толькі адным сваім выглядам здольныя ўпрыгожыць гарадскія вуліцы. Для вадзіцеляў такога транспарту створаны ўсе ўмовы для працы: клімат-кантроль, кандыцыянер, поўнае інфармаванне аб стане машыны, якая яшчэ і эканамічней сваіх папярэднікаў на 50 працэнтаў. А для пасажыраў у салоне — зручныя сядзенні, маюцца спецыяльныя месцы для інвалідаў. Немалаважна, што ў тралейбусах чацвёртага пакалення гарантавана максімальная электрабяспечнасць машыны.




У салонах гарадскога транспарту даволі камфортна

Яшчэ адной навінкай, якой "Мінсктранс" парадуе жыхароў сталіцы, стане бясшумны хуткасны трамвай, які развівае хуткасць да 120 км за гадзіну. Машына будзе выканана ў трохсекцыйным варыянце з двума кіруемымі кабінамі (першай і апошняй).

Папаўненне парку вагонаў чакаецца і ў Мінскім метрапалітэне. Разглядаецца магчымасць набыцця сёлета для метро дадаткова 30 вагонаў.

**ВЕСТКІ**

## Зручнасці для суседзяў

**Аляксей Букчын**

**Латвія робіць захады дзеля паніжэння кошту шэнгенскіх віз для грамадзян Беларусі.**

Як заявіў міністр эканомікі Латвіі Каспарс Герхардс пад час сустрэчы з міністрам спорту і турызму Беларусі Аляксандрам Грыгаравым у Мінску, гэта пытанне вельмі актуальнае, нядаўна яно стала прадметам абмеркавання ў Кабінеце міністраў. "З аднаго боку добра, што мы ўвайшлі ў шэнгенскую зону, але з другога боку мы павінны думаць пра тое, як зняць абмежаванні для турыстаў з нешэнгенскіх краін", — сказаў Каспарс Герхардс.

Між тым начальнік упраўлення турызму Міністэрства спорту і турызму Васіль Янкавенка паведаміў, што ўжо завяршаецца работа над беларуска-літоўскім пагадненнем, у адпаведнасці з якім жыхары прыгранічных тэрыторый змогуць наведваць тэрыторыю суседняй краіны ў межах да 50 кіламетраў ад граніцы. Разглядаецца магчымасць падпісання аналагічнага пагаднення паміж Беларуссю і Латвіяй.

## Дабрачыннасць, вартая ўдзячнасці

**Таццяна Шур**

**Урад Японіі выдаткаваў грант у памеры амаль 400 тысяч долараў на набыццё медыцынскага абсталявання для пяці бальніц Гомельскай вобласці.**

Такая дапамога робіцца беларускім рэгіёнам, пацярпелым ад наступстваў чарнобыльскай катастрофы, пачынаючы з 2004 года.

Японія і Беларусь з'яўляюцца краінамі, якія падвяргаліся ў розны час і па розных прычынах радыеактыўнаму забруджванню. І цяжкасці, якія маюць беларусы, не з'яўляюцца чужымі для японцаў. "Таму наш урад мае намер і ў далейшым рэалізоўваць у чарнобыльскіх рэгіёнах Беларусі праграму грантавай дапамогі на праекты па бяспецы насельніцтва", — адзначыў Набуюкі Фукуда, другі сакратар пасольства Японіі ў Беларусі.

У адпаведнасці з апошнім грантам Гомельскай абласной дзіцячай бальніцы выдзелена амаль 70 тысячы долараў на набыццё відэаэндаскапічнага абсталявання.

# Роднае слова – праз Інтэрнэт

## Слухаць літаратурныя творы, вучыцца правільна гаварыць па-беларуску можна пры дапамозе новых камп'ютарных праграм



Іван Ждановіч

Мова, як вядома, жыве з народам, а без практыкі, удалечыні ад Радзімы, забываецца. У гэтым, пэўна, не раз пераконваліся нашы суайчыннікі з замежжа. Часам і хочацца ім, сустрэўшыся, пагаварыць па-беларуску, скажам, у Эстоніі, Казахстане ці Расіі, ды запалу хапае ненадоўга. І вось добрай падмогай для аматараў роднай мовы становяцца ІТ-тэхналогіі.

"Некалькі гадоў таму мы распрацавалі камп'ютарную праграму, вядомую многім як Sakrament LibReader, пры ўдзеле Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА і Бюро ЮНЕСКА ў Маскве, — расказвае дырэктар мінскай кампаніі "Сакрамент ІТ", рэзідэнта Парка высокіх тэхналогій Валерый Ягораў. — Гэта, як лічаць спецыялісты, вельмі прэстыжны для нашай краіны праект, далёка не ўсе з соцен народаў свету маюць доступ да такіх тэхналогій. Sakrament LibReader — так званая галасавая электронная бібліятэка, яе прызначэнне — агучваць тэксты на камп'ютары, смартфоне, іншых устройствах пры дапамозе раней запатэнтаванай намі тэхналогіі сінтэзу мовы. Прычым, што важна, праграма адаптавана для выкарыстання людзьмі з парушэннямі зроку: ёй зручна кіраваць пры дапамозе невялікай колькасці клавіш, ёсць функцыя галасавой даведкі — нават цалкам невідушчыя дзеці, як мы пераканаліся, праз некалькі заняткаў працуюць з ёй самастойна".

Распрацоўшчыкі, рэалізуючы праект, выкарысталі і ранейшыя напрацоўкі, таму праграма сінтэзуе, акрамя беларускай, яшчэ і рускую, і англійскую мовы. У ёй таксама закладзена бібліятэка твораў па беларускай літаратуры для старшакласнікаў, прычым і тых, што прызначаны для пазакласнага і самастойнага чытання.

Падарожнічаць па каталогах бібліятэкі, паказвае В. Ягораў, можна як пры дапамозе мышкі, так і камбінацый клавішаў. І дзеянні чалавека машына агучвае голасам, які яму даспадобы — можна сінтэзаваць нават уласны, выбраць як хуткасць маўлення, так і гучнасць. Але не толькі бібліятэка даступна карыстальніку. "Можна загрузіць практычна любы электронны дакумент у шырока вядомым фармаце RTF — і машына па вашай камандзе агучыць яго", — удакладняе мой субяседнік.



ІВАН ЖДАНОВІЧ

Таццяна Лабецкая і Яўген Кацягоў вучаць камп'ютары агучваць тэксты

А ці падыдзе праграма Sakrament LibReader для выкарыстання, скажам, у камп'ютарах, якія ўстаноўлены ў бібліятэках, музеях? Як вядома, беларускія суполкі за мяжой часта выбіраюць месцам сваіх кантактаў, сустрэч такія месцы. У прыватнасці, беларусы Яраслаўля збіраюцца ў Музеі Максіма Багдановіча, а нашы землякі ў Тальяці — у адной з раённых бібліятэк горада. "Мы прадбачылі, што нашы праграмы будуць скарыстоўвацца і ў грамадскіх месцах, — прадаўжае В.Ягораў. — У прыватнасці, устаноўлены яны і на многіх камп'ютарах Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. З праграмай, пра якую ідзе гаворка, можа працаваць некалькі карыстальнікаў, і кожны мае магчымасць зрабіць у ёй свае закладкі, каб зручней было карыстацца рэсурсам. Скажам, у папку з творамі Максіма Багдановіча можа дадаць новыя звесткі, ці біяграфію паэта".

Зрэшты, гэта ўжо дэталі, у якія лепш унікаць на практыцы. Важна, што цяпер ідэя, сфармуляваная ІТ-спецыялістам у Нацыянальнай камісіі па справах ЮНЕСКА, ужо стала вельмі карыснай праграмай. У прыватнасці, Міністэрства адукацыі праяўляе цікавасць да супрацоўніцтва з кампаніяй "Сакрамент ІТ" пры стварэнні школьных электронных падручнікаў. Карыстаюцца праграмамі дзеці як з праблемамі зроку, так і слыху: у мінскую спецшколу №14 такі падарунак быў перададзены якраз пад Новы год. Сёлета ж упершыню кампанія пачала распаўсюджваць свае праграмныя прадукты не толькі на кампакт-дысках, але і праз Інтэрнэт. "Цяпер усе, хто пажадае, могуць знайсці нашы праграмы, бо яны ёсць у сусветнай павуціне: мы пачалі супрацоўніцтва з Allsoft.ru, адным з буйнейшых інтэрнэт-магазінаў на расійскім партале, — гаворыць В.Ягораў. — Так што колькасць тых, хто выкарыстоўвае нашы праграмы, у тым ліку і слухае пры іх дапамозе роднае беларускае слова, у свеце з кожным днём павялічваецца".

# Дакладны сігнал

## Ганаровае консульства Рэспублікі Перу адкрылася ў Беларусі

Аліна Грышкевіч

Як адзначыў на афіцыйнай цырымоніі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Перу ў Расіі і Беларусі (па сумяшчальніцтве) Умберта Умерас, адкрыццё ганаровага консульства будзе садзейнічаць развіццю беларуска-перуанскіх сувязяў, у прыватнасці, гандлёва-эканамічных, навукова-тэхнічных, адукацыйных, культурных і турыстычных. Па словах пасла, і цяпер Беларусь і Перу паспяхова супрацоўнічаюць, аднак неабходны новыя крокі ў развіцці двухбаковых кантактаў. Умберта Умерас падкрэсліў, што ў бліжэйшы час плануецца падпісаць дакумент, які дазволіць выдаваць перуанскія візы ў Мінску. Рыхтуецца таксама да падпісання дамова аб развіцці сувязяў у галіне адукацыі.

Кіраўнік аддзела Лацінскай Амерыкі Міністэрства замежных спраў Беларусі Георгій Кісляк у сваю чаргу падкрэсліў, што Беларусь надае вялікае значэнне развіццю ўсебаковых сувязяў з Перу і разглядае гэтую краіну як перспектыўнага партнёра ў Лацінаамерыканскім рэгіёне: "Рашэнне ўрада Перу адкрыць ганаровае консульства з'яўляецца дакладным сігналам зацікаўленасці перуанскага боку ў развіцці поўнамаштабнага супрацоўніцтва з Беларуссю". Афіцыйны прадстаўнік МЗС падзякаваў паслу Перу, дыпламатычная місія якога завяршаецца, за вялікі ўклад у развіццё сувязяў з Беларуссю.



БЕЛТА

Урачысты момант афіцыйнай цырымоніі

# Чытайце больш!

## У Гродне з`явіцца шэсць інфармацыйна-адукацыйных медыяцэнтраў

Таццяна Вішнеўская

У медыяцэнтрах пры гарадскіх бібліятэках чытачы атрымаюць магчымасць карыстацца Інтэрнэтам, электроннымі даведнікамі і слоўнікамі, літаратурай на электронных носьбітах. Сёння, як паведаміла дырэктар Гродзенскай цэнтралізаванай бібліятэчнай сеткі Галіна Рыбалка, нараўне з традыцыйнымі формамі працы бібліятэкі актыўна пашыраюць клубную дзейнасць і інфармацыйныя паслугі. Ужо некалькі гадоў тут займаюцца стварэннем электронных каталогаў і мультымедыйных фондаў. Цяпер у гарадской бібліятэчнай сетцы маецца самы вялікі бібліяграфічны электроны каталог, які апісвае літаратуру, што выйшла за апошнія 5 гадоў. У ім больш за 70 тысяч запісаў, у тым ліку каля 45 тысяч спасылак на перыядычныя выданні.

Нягледзячы на павелічэнне колькасці карыстальнікаў Інтэрнэту, мноства кіна-, відэапрадукцыі, развіццё сродкаў сувязі, жыхары абласнога цэнтра застаюцца сталымі наведвальнікамі бібліятэк. У 15 філіялах гарадской бібліятэчнай сеткі налічаецца каля 50 тысяч чытачоў. Прыкладна столькі ж чытачоў наведваюць Гродзенскую абласную бібліятэку імя Я. Карскага. Такім чынам, можна лічыць, што трэць насельніцтва Гродна актыўна чытае. Штогод бібліятэкары горада ажыццяўляюць 1 мільён кнігавыдач. І гэтая лічба не памяншаецца ўжо гадоў 15.

# "Жыццё — Айчыне, гонар — нікому"

## У галерэі Нацыянальнай бібліятэкі адкрыта гісторыка-мастацкая выстава "Эмерык фон Гутэн-Чапскі на фоне эпохі"

Лявон Целеш

Дзяржаўны і грамадскі дзеяч, асветнік, бібліяфіл, калекцыянер, мецэнат… Такім ведаюць у Беларусі і за яе межамі графа Эмерыка Чапскага, 180-годдзю з дня нараджэння якога прысвечана выстава. Экспазіцыю, як даніну павагі адметнаму земляку, рыхтавалі на Дзяржыншчыне актывісты цэнтра народнай творчасці "Прылуцкая спадчына", гістарычнага музея Станькаўскай сярэдняй школы імя Марата Казея, а таксама супрацоўнікі Нацыянальнай бібліятэкі і Польскага інстытута ў Мінску.

Як расказаў падчас адкрыцця выставы кіраўнік "Прылуцкай спадчыны" Ігар Гатальскі, дзейнасцю на карысць Айчыны вызначыўся як сам граф, так і яго сыны Кароль і Ежы (Юрый). І сёння ў Мінску ёсць пабудовы з таго часу, як Эмерык Чапскі быў гарадскім галавою. Пад яго кіраўніцтвам, напрыклад, будавалася электрастанцыя, развіваўся піўзавод "Аліварыя", узводзіўся тэатр (цяпер у тым будынку — Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы), пачала дзейнічаць "конка" (конны трамвай).

Габелены, кнігі на беларускай, рускай і польскай мовах, шматлікія буклеты, архіўныя дакументы, мастацкія партрэты Эмерыка і іншых прадстаўнікоў роду Чапскіх — усё працуе на шматмерны вобраз гэтага чалавека. Асаблівую ўвагу прыцягвае радавод графоў, у якім цяпер сотні людзей адзінаццаці пакаленняў. Аўтар гэтага арыгінальнага твору, як і многіх партрэтаў — архітэктар, навуковы кіраўнік праекта рэстаўрацыі станькаўскага Свята-Мікалаеўскага храма Алег Маслееў.

Ёсць месца ў тым вялікім радаводзе і для вядомага беларускага мовазнаўцы, кандыдата педагагічных навук Валянціны Выхоты. На выставе яна прадэманстравала дыплом і медаль з Ізраіля — імі і званнем "Праведніца свету" ўганаравана яна за тое, што ў вайну разам з бацькамі ўратавала ад фашыстаў яўрэйскую дзяўчынку. Тут варта згадаць, што менавіта на гербе "Леліва" роду Чапскіх ёсць добра вядомы цяпер шляхецкі дэвіз "Жыццё — Айчыне, гонар — нікому". Менавіта яго і імкнуцца прытрымлівацца прадстаўнікі роду, выбіраючы жыццёвыя дарогі.

Выстава — першы складнік сёлетняга праекта па ўшанаванні памяці Эмерыка фон Гутэн-Чапскага. Толькі што з удзелам прадстаўнікоў роду з розных краін у Мінску прайшла міжнародная навуковая канферэнцыя.



Мовазнаўца Валянціна Выхота прадаўжае асветніцкія традыцыі роду фон Гутэн-Чапскіх, а навуковец Анатоль Валахановіч даследуе яго даўнія сувязі з Беларуссю

# Багацце палескага краю

Роберт Нацкі

**Вырабы народных майстроў Брэсцкай вобласці прадстаўлены ў польскай Гайнаўцы.**

У прыватнасці, у Музеі і цэнтры беларускай культуры ў горадзе Гайнаўцы (Падляскае ваяводства Польшчы) праходзіць выстава вырабаў Брэсцкага абласнога клуба народных майстроў "Скарб", на якой прадстаўлены розныя кірункі народнай творчасці: разьба па дрэву, ткацтва, гафт (мастацкая вышыўка), кераміка, малюнак на шкле, вырабы з саломкі. Экспазіцыя працуе ў рамках IV Падляска-палескага фестывалю.

У адкрыцці выставы прынялі ўдзел беларускія дыпламаты, прадстаўнікі мясцовых улад, беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Як падкрэслівалі выступаючыя, падобныя мерапрыемствы сведчаць аб тым, што ў культур Палесся і Падляшша — агульныя этнічныя і этнаграфічныя карані.

Вядома, што Падляскае ваяводства з'яўляецца месцам кампактнага пражывання прадстаўнікоў беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Большасць жыхароў Гайнаўкі — этнічныя беларусы.

# Мінскі мецэнат

## Міжнародная канферэнцыя была прысвечана дзейнасці Эдварда Вайніловіча

Адам Мальдзіс

Сярод жыхароў беларускай сталіцы Эдвард Вайніловіч (1847–1928) вядомы пераважна як мецэнат, як фундатар так званага "Чырвонага касцёла", што ўзвышаецца на плошчы Незалежнасці. Храму было нададзена імя святых Сымона і Алены — у памяць пра нябесных патронаў заўчасна памерлых дзяцей мецэната. На ўзвядзенне неараманскага будынка было ім затрачана 200 тысяч рублёў, сума на той час велізарная. Міжвольна ўзнікае пытанне: а адкуль жа ўзяліся такія грошы ва ўладальніка не дужа вялікага маёнтка Савічы Слуцкага павета?

На Беларуска-польскай навуковай канферэнцыі, прысвечанай памяці Эдварда Вайніловіча і праведзенай у тэатральным памяшканні таго ж касцёла, разам з іншымі слухачамі і я сам упершыню даведаўся, адкуль браліся сродкі і на касцёл, і на цэрквы, і на сінагогу ў Клецку, і на дапамогу мусульманам, і на ўзвядзенне спартыўных, гаспадарчых, дабрачынных будынкаў у Мінску і Слуцку. Найперш — з уласнага землеўладання, сярэдняга па плошчы, але добра загаспадараванага. Як шматгадовы старшыня Мінскага сельскагаспадарчага таварыства, што павінен быў паказваць прыклад іншым, Вайніловіч проста не меў права гаспадарыць абы як, не на поўную сілу: за ім цягнуліся, бо сорамна ж было адставаць, іншыя.

Найперш таварыствам быў створаны сіндыкат, да паспяховай дзейнасці якога варта ўважліва прыглядзецца і сённяшнім сельскагаспадарчым вытворцам. На мясных заводах і сушыльнях гародніны перапрацоўвалася земляробчая прадукцыя, якая пастаўлялася ў бочках, перамагаючы канкурэнтаў, ажно ва Уладзівасток і Якуцк, забяспечвала харчамі армію. З другога боку, акцыянеры таварыства цэнтралізавана, як бы мы сёння сказалі, забяспечваліся сельскагаспадарчымі машынамі і прыладамі пераважна мясцовай вытворчасці. Лозунгам сіндыката было: "Малатарню і сячкарню — у кожны сялянскі двор!".

Вялікую папулярнасць на Міншчыне набыла Каса ўзаемадапамогі таварыства. Грошы туды ўкладвалі і больш заможныя сяляне. І што цікава, "мужыцкія" рублі найчасцей пазычалі… паны. Вопыт работы таварыства прыязджалі пераймаць з Польшчы, з рускага Чарназем'я. Спецыяльна дзеля гэтага наведаў Мінск і вядомы расійскі рэфарматар Пётр Сталыпін.

Як добрага гаспадара і грамадскага дзеяча Эдварда Вайніловіча чатыры разы выбіралі ў царскую Думу. У 1906 годзе ён увайшоў у Дзяржаўную раду, узначаліў яе дэпутатаў з беларуска-літоўскіх зямель. Кіраўнік расійскага ўрада Сталыпін тады ўважліва прыглядаўся да добрасумленнай дзейнасці мінскага рэфарматара, прапанаваў яму стаць міністрам сельскай гаспадаркі, але сустрэў адмову: хто ж тады ўзначальваў бы мінскае таварыства?!

Пра ўсё гэта і пра многае іншае гаварылі на канферэнцыі прафесар з Гродна Аляксандр Смалянчук, мінскія архівісты Зміцер Яцкевіч і Уладзімір Дзянісаў, навукоўцы з Польшчы Дар'юш Шпопэр і Раман Юркоўскі. Апошні паведаміў, што рыхтуе выданне поўнага тэксту "Успамінаў" Вайніловіча (першая іх частка пабачыла свет у 1931 годзе ў Вільні, другая была знойдзена ў рукапісе ў Польшчы). Пасля гэтага, запэўнілі прысутныя, будзе беларускае перавыданне.



Эдвард Вайніловіч

Многа на канферэнцыі таксама гаварылася аб патрыятызме Вайніловіча. Паходзіў ён са старажытнага беларускага роду, праваслаўнага, а пасля уніяцкага па веравызнанні. Выступаў супраць націску і ўмяшанняў як з боку Масквы, так і з "берагоў Віслы", што выклікала ў палякаў насцярожанасць, а то і варожасць. Ад усведамлення "краёвай" адметнасці і "тутэйшасці" ён паслядоўна ішоў да беларускасці. Выступаў за адзінства беларускіх зямель, супраць Рыжскага трактату. Апошнія гады жыцця Вайніловіч правёў у беднасці, аднак не губляючы годнасці і аптымізму, у польскім горадзе Быдгашч, адкуль яго прах стараннямі ксяндза Уладыслава Завальнюка быў перавезены ў Мінск і перазахаваны ля сцяны фундаванага ім касцёла.

Удзельнікі канферэнцыі атрымалі ў падарунак кнігу Уладыслава Завальнюка "Так хацеў Бог!", дзе змешчана паэма пра Эдварда Вайніловіча, копіі некалькіх дакументаў, шматлікія здымкі пачатку XX стагоддзя.



ГЕОРГІЙ ШАБЛЮК

Чырвоны касцёл у Мінску

# Вясна прыйшла!

## У трэці раз ладзіўся беларуска-нямецкі карнавал на манер знакамітага карнавалу ў Кёльне

**Яніна Сядзельнік**

Вядзьмарка, Лісічка, Гейша, Мумія... Дзе яшчэ можна сустрэць такіх розных персанажаў разам? А з Германіі спецыяльна прыехалі два дзі-джэі, каб стварыць такую ж вясёлую атмасферу, як і на Кёльнскім карнавале. "Мы ставім тут самыя новыя карнавальныя мелодыі, нямецкія шлягеры ды вядомыя хіты. Як заўсёды, шмат вырашае добрае музычнае суправаджэнне, і, як бачна, госці атрымліваюць шмат задавальнення. Гэта добра, што нам удалося дакрануцца да беларускай душы нямецкімі песнямі", — распавядае адзін з дзі-джэяў Вольфганг Лёр.

Тут варта патлумачыць, што карнавал у Кёльне стыхійна праводзіўся з даўніх часоў, гэта водгалас язычніцкага гуляння з нагоды провадаў зімы. Першы ж "камітэт карнавала" быў створаны яшчэ ў 1823 годзе. Як сцвярджаюць арганізатары, у 2007-м у кёльнскім карнавале ўдзельнічала звыш 10 тысяч чалавек і ажно 123 розныя аркестры.

Але вернемся на карнавал у Мінск. Вось Афіцыянтка ў касцюме прыбіральшчыцы прапаноўвае Жанчыне-кошцы і яе сябру Манаху пачастунак: маленькую бутэльку шнапсу."Тут шмат добрага настрою, шмат усмешак... Я быў на Кёльнскім карнавале, і сённяшняе свята можна з упэўненасцю назваць яго часцінкай. Праўда, немцы карнаваляць на вуліцы, мы ж пакуль у будынку. Але з гадамі карнавал вырасце!" — упэўнены Пірат. Жанчына, пераапранутая ў Даму з сярэднявечча, прызнаецца, што на свяце ў другі раз, і такая гульня ёй даспадобы.

Колькі фантазіі, крэатыву ў касцюмах! Прычым адрозніць беларусаў ад немцаў можна, хіба што, загаварыўшы з імі. Адзін жа Незнаёмец, як дапамагла мне высветліць яго прыгожая Перакладчыца, набыў маску ў Венецыі выключна для карнавала, і размаўляў толькі па-англійску. "Я нядаўна з Дрэздэна, праводжу тут канікулы. Мы з сябрамі прыйшлі на свята і ніколькі не шкадуем!" — усміхаецца сімпатычны немец.

Карнавал – гэта і фота на памяць, і знаёмствы, вельмі нязмушаныя ў аўры адной вялікай сям'і. Час ад часу на подыум выхо-дзіць нехта з удзельнікаў, каб нешта сказаць публіцы. Вось там з'явіўся квінтэт... Мумій. "Летась мы былі Кажанамі, нічога не выйгралі... Сёння мы, Муміі, жадаем атрымаць прыз!" — дэманструюць свае касцюмы дзяўчаты, замотаныя ў белыя бінты. Знакаміты граф Дракула ўвесь час таньчыў з мілай Цыганкай, было шмат жадаючых сфатаграфавацца з прыгожай Гейшай, Зайчыкамі, а таксама Дактарамі і Жабянятамі. Як мне ўдалося высветліць, адны з удзельнікаў узялі сабе вопратку напракат, а некаторыя спецыяльна змайстравалі самі.

Спадзяванні Мумій падцвердзіліся: іх касцюмы былі прызнаны самымі лепшымі. Дзяўчаты атрымалі ў падарунак вялізную бутэльку шампанскага і, шчаслівыя, фатаграфаваліся з усімі на памяць. Карнавал закончыўся дыскатэкай, разбітымі на шчасце куфлямі ды сяброўскімі пажаданнямі. Пасля такога арыгінальнага свята варта спадзявацца:сапраўдная вясна ў Беларусь прыйдзе без затрымак.




Сфатаграфавацца на памяць — абавязковы атрыбут вясёлага карнавалу

# Такія блізкія сэрцу вобразы

**Творчы вечар майстра габелена Вольгі Дзёмкінай прайшоў у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук.**

Вольга Дзёмкіна, якая цяпер жыве ў Ліёне (Францыя), прывезла на радзіму свой габелен "Чорная быліна пра дзяцей Палесся, якія не нарадзіліся". У гэтай працы прадстаўлены вобразы маці беларускай зямлі, апаленай трагедыяй Чарнобыля. Для жанчын, вочы якіх напоўнены трывогай, цярпеннем, смуткам і каханнем, катастрофа на Чарнобыльскай АЭС стала болем аб дзецях, якія не нарадзіліся. Вольга Дзёмкіна стварыла габелен пра долю беларусак і прысвяціла яго сваёй сястры Святлане, якая стала ахвярай Чарнобыля.

Адкрываючы вечар, дырэктар бібліятэкі Наталля Бярозкіна назвала Вольгу Дзёмкіну "вельмі таленавітым майстрам, якім могуць ганарыцца яе радзіма Беларусь і Францыя, дзе цяпер жыве мастачка".

Па словах намесніка дырэктара Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Алы Сташкевіч, творчасць Дзёмкінай вылучаецца шчырасцю, вытанчанасцю і загадкавасцю. Габелен "Чорная быліна пра дзяцей Палесся, якія не нарадзіліся", лічыць А.Сташкевіч, па сваёй кампазіцыі і каляровай гаме, эмацыйнасці і дасканаласці годны калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.

Цяпер Вольга Дзёмкіна працуе над маштабным праектам "Мадонны пяці кантынентаў", а таксама над габеленам для Нясвіжскага палацава-паркавага ансамбля, прысвечаным яго заснавальніку Мікалаю Крыштафу Радзівілу (Сіротцы).

Габелены і кніжная графіка В.Дзёмкінай перамагалі на шматлікіх міжнародных конкурсах. Яе творчасць адзначана залатым медалём Міжнароднай акадэміі мастацтва і літаратуры LUTEC у Парыжы і медалём Нацыянальнай асамблеі Францыі. В.Дзёмкіна ўваходзіць у Савет мастакоў Францыі.

# Птушкі вяртаюцца з выраю



**Вольга Бяляўская**

**Агульнаеўрапейская акцыя "Жывая вясна" па назіраннях за птушкамі, якія мігруюць, стартавала і ў Беларусі.**

Асноўная мэта праекта — збор дадзеных аб птушках, якія вяртаюцца ў Еўропу з выраю. Удзельнікі акцыі назіраюць, як прылятаюць у Беларусь чатыры віды птушак: белыя буслы, чорныя стрыжы, вясковыя ластаўкі і звычайныя зязюлі. Маніторынг гэтых пярнатых дазволіць прасачыць тэндэнцыю перамяшчэння птушак па еўрапейскім кантыненце, вызначыць змяненні маршрутаў іх вясновых пералётаў.

Удзел у акцыі могуць прыняць усе жадаючыя: для гэтага трэба занесці інфармацыю аб заўважаных птушках на сайт www.springalive.net. "На сайце адлюстраваны назіранні за птушкамі з усіх куткоў Еўропы, — расказаў спецыяліст па экалагічнай адукацыі грамадскай арганізацыі "Ахова птушак Бацькаўшчыны" Руслан Шайкін. — Па меры паступлення рэгістрацый кожная з краін набывае на спецыяльнай карце Еўропы па перамяшчэнні птушак больш насычаны аранжавы колер, які сімвалізуе наступленне жывой вясны".

Субяседнік адзначыў, што масавы прылёт птушак ужо пачаўся ў некаторых паўднёваеўрапейскіх краінах. Усе чатыры іх віды, якія сімвалізуюць надыход вясны, адзначаны на Мальце, а таксама ў Італіі і Партугаліі. Першыя веснікі вясны прыляцелі і ў Іспанію і Францыю.

У Беларусі летась агульная колькасць паведамленняў аб птушках, якія паступілі падчас кампаніі "Жывая вясна", перавысіла 40 тысяч. Найбольшую актыўнасць у назіранні за птушынымі пералётамі летась выявілі жыхары Мядзельскага раёна Мінскай вобласці: прыслалі больш за 500 паведамленняў.

# Памяці маэстра

**Адам Мальдзіс**

**З Вільнюса прыйшла сумная вестка: 9 сакавіка памёр заслужаны артыст і заслужаны дзеяч мастацтваў Літвы Лявон Мурашка. У апошнія гады жыцця ён узначальваў Згуртаванне беларускіх грамадскіх арганізацый у Літоўскай Рэспубліцы.**

Лявона Мурашку ўпершыню пачуў я з вільнюскай опернай сцэны дзесьці ў сярэдзіне 50-х, яшчэ будучы студэнтам. Параіла тады пайсці на "Яўгенія Анегіна" мая стрыечная сястра Ганна Жукоўская: яна працавала ў Вільнюскай кансерваторыі сакратаром. "Выканаўцу партыі Германа я добра ведаю, — сказала яна, — таму што ён выкладае ў нас сольныя спевы. Беларусы ходзяць на спектаклі з яго ўдзелам гурмам, бо гэта лепшы вучань вашага Рыгора Шырмы". У тэатры сапраўды чулася беларуская гаворка, асабліва калі выканаўцам пасля спектакля дружна ўручалі кветкі.



Потым я не раз слухаў Лявона Мурашку і ў Вільнюсе, і ў Мінску, дзе ён выконваў і арыі з опер, і беларускія народныя песні, вядомыя яму з дзіцячых год. Нарадзіўся ён 27 жніўня 1924 года ў вёсцы Сіняўка цяпер Клецкага раёна Міншчыны ў сям'і рэгента царкоўнага хору. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, рускай гімназіі імя А. Пушкіна. У 1944–1946 гадах спяваў у Беларускім ансамблі песні і танца пад кіраўніцтвам Р. Шырмы. Затым быў залічаны салістам у Літоўскую філармонію і адначасова паступіў у кансерваторыю, дзе яго настаўнікам стаў прызнаны майстар вакалу Кіпрас Пятраўскас. Стаў лаўрэатам Маскоўскага конкурса вакалістаў (1956). Аб'ездзіў з гастролямі Італію, Іспанію, Германію, Польшчу, Румынію, Чэхаславакію, Югаславію.

Выйшаўшы на пенсію, наш суайчыннік працягваў працаваць рэгентам царкоўнага хору ў слаўтым Свята-Духаўскім саборы. І адначасова заняўся грамадскай справай, яднаючы вакол сябе беларусаў. Бываючы ў Мінску, часта заходзіў у рэдакцыю "Голасу Радзімы", з дапамогай якой некаторы час і выдаваў свой "Бюлетэнь" Згуртавання беларускіх грамадскіх арганізацый у Літве.

Лявон Мурашка пакінуў пасля сябе добрую памяць і як спявак, і як актыўны грамадскі дзеяч.

**Заснавальнік:** Рэдакцыя газеты «СБ»
**Рэдактар** Віктар Харкоў
**Адрас:** пр. Незалежнасці, 44, Мінск, 220005
**Тэлефон рэдакцыі:** +375 17 288—12—80; факс: +375 17 288—12—80
**Бюро па рэкламе:** Тэл. +375 17 290—60—11
**E—mail:** golas_radzimy@tut.by
Газета надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
**Аб'ём выдання:** 1 друк. арк.
**Тыраж:** 2000
**Заказ:** 300